Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 2 Вільня, Чацьвер, 15-га красавіка 1926 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Цар ці народ?

Польскае Тэлеграфнае Агенцтва ўрачыста апавяшчае, што былы вялікі князь Мікалай Мікалаевіч на кангрэсе расейскіх эмігрантаў—манархістаў у Парыжу абвешчаны „царом“ Расеі. Гэтак, побач з самачынным „царом“ Кірылам, маем ўжо двух эміганцкіх „расейскіх імпэратараў“....

Абодва гэтыя „цары“, якія ня маюць пад сваей уладай ніводнага „падданага“ і ніводнае пядзі зямлі, вызываюць толькі жарты над сваей асобай. І сколькі-б іх ні „выбіралі“, сколькі-б іх ні аб‘яўлялася ў тэй ці іншай дзяржаве, у СССР нічагусенькі ад гэтага ня зьменіцца. Дый мы не зьвярнулі бы на новага „цара“ ўвагі нашых чытачоў, калі-б ня тое, што самыя гэныя выбары вельмі характэрныя для расейскай эміграцыі наагул....

Запраўды-ж: гэта—самы яркі доказ, што расейская эміграцыя, ня сьцертая да канца сацыяльнай рэвалюцыяй і ўцёкшая заграніцу, абсалютна не зьмянілася на эміграцыі і абсалютна нічога там не навучылася. Прывычка *панаваць* над народам засланіла гэным эмігрантам вочы на тое, што працоўныя масы былое царскае Расеі ад часу выбуху рэвалюцыі нязвычайна *вырасьлі, узялі ўладу ў свае ўласныя рукі і пачалі самі будаваць свае* жыцьцё, зусім добра абходзячыся бяз уцёкшае з Расеі буржуазіі! „Расея—гэта мы!“ горда заявілі на парыжскім зьезьдзе гэныя эмігранты і—*аб‘явілі працоўнай Расеі непрымірымую вайну* — вайну не на жыцьцё, а на сьмерць!

Дзеля такой барацьбы расейскай буржуазіі патрэбен павадыр — патрэбен „цар“, як сымвал буржуазных лятуценьняў аб павароце да „добрых старых часоў“. Дык хто-ж можа быць лепшым павадыром, калі ня той, хто па загаду гэтае-ж самае буржуазіі вёў на сьмерць і пагібель міліёны сялян і работнікаў у часе сусьветнае вайны? Хто-ж адважыцца падняць праступную руку на „свой“ народ, калі не „памазаньнік божы“—„цар“?!

Мы ня верым у магчымасьць павароту да царызму ў СССР: народ, які ўжо пазнаў, што такое воля, ніколі ня дасьць узьдзець сабе на шыю старое ярмо! Але што-ж рабіць аканчальна збанкрутаваўшай расейскай буржуазіі: у яе няма іншага спосабу вярнуць усё ўтрачанае, апрача аружнага заваяваньня „збунтаваўшагася“ народу—пад павадырствам „цара“... Лятуценьні аб паходзе на СССР— гэта лятуценьні *банкрутаў*, гэта — доказ ня толькі жыцьцёвага, але і маральнага банкруцтва расейскай буржуазнай эміграцыі.

Характэрна, што туга за „царом“ выяўляецца не ў аднэй расейскай буржуазіі. Бо якраз тое самае бачым мы ў буржуазіі польскай, таксама аказаўшайся і палітычным і маральным банкрутам у сваей уласнай дзяржаве—незалежнай „дэмакратычнай рэспубліцы“. Характэрна, што пад той час, як у Парыжу аб „цару“ лятуцяць расейскія эмігранты, у Польшчы адкрыта вядзецца агітацыя манархістаў на карысьць „круля“. Лічба паклоньнікаў каралеўскае ўлады ў Польшчы расьце, здабываючы сабе навет соймавых дэпутатаў і навет—спаміж былых „вызваленцаў“. Польская буржуазія, пераканаўшыся, што яе „супрацоўніцтва“ з ненавісным „дэмосам“ на парляманцкім груньце ня зьдзейсьніла лятуценьняў яе аб поўным панаваньні над гэным „дэмосам“, імкнецца цяпер адкрыта *да сваей клясавай дыктатуры над сялянствам і работнікамі*. Вось сымвалам гэтае дыктатуры і зьяўляецца „круль“.

Аднак, мы ня верым, каб польскія калегі расейскіх банкрутаў аказаліся шчасьлівейшымі за іх. *Мінуў ужо час цароў, настаў час народаў*. І мы верым, што і ў Польшчы ў змаганьні з буржуазіяй за клясавую дыктатуру *пераможа ня „круль“,—а селянін і работнік*!

## Падумайма, маючы час.

(Пісьмо з Палесься).

Да нармальнага канца паўнамоцтваў цяперашняга Сойму маем крыху больш як паўтара года, але можна спадзявацца, што здарацца выбары й раней, бо ўсе больш значныя соймавыя фракцыі (клюбы) выказваюцца адзін за адным за роспуск Сойму, а значыцца і за новыя выбары.

Прадбачачы хуткую магчымасьць гэтых выбараў, усе польскія партыі стараюцца так ці гэтак падлабуніцца да нашых сялянскіх масаў, ізноў выстаўляюць крыклівыя лёзунгі і ўсялякія пустыя абяцанкі. Пустыя гэтыя абяцанкі ў вуснах польскіх партыяў таму, што яны ніколі іх не датрымаюць, бо не датрымалі ніводнае з ранейшых.

Кожнаму вядома, што ў выбарную кампанію, г. знач. падчас барацьбы розных партыяў за нашыя мужыцкія галасы, робіцца страшэнная агітацыя, кожная партыя вярбуе ў свае рады народ, каб перамагчы іншыя партыі. Будзе гэтая агітацыя і пры новых выбарах.

Справа толькі ў тым, што час — найлепшы агітатар. Ен найлепей пакіроўвае народныя масы ў той ці іншы бок, таму што дае ім магчымасьць прыглядзецца да працы кожнае партыі ў самым Сойме, а прыглядзеўшыся параўнаваць, ці так робіць даная партыя, як яна пісала ў перадвыбарных адозвах, ці спаўняе дакладна свае праграмныя абавязаньні перад выбаршчыкамі, ці проста махлюе: піша ў час выбараў адно, а робіць у Сойме зусім другое.

І вось, калі прыглядзецца да польскіх пасłоў, выбраных ад нашага краю нашымі-ж сялянскімі галасамі, дык акажацца, што яны моцна ашукалі ўсё народныя надзеі. Гэтак званыя „польскія соцыялістыя“ ці прасьцей пэ-пэ-эсы ў сваёй штодзеннай газэце „Robotnik“ вялікімі літарамі ў самым загалоўку пішуць: „Нех жые жонд роботнічо-влосьцяньскі“ (Хай жыве рабоча сялянскі ўрад“), а цяпер, як бачым, ахвотна мініструюць ува ўрадзе панска-ксяндзоўскім разам з эндэкамі, пястоўцамі і хадэкамі. Выходзіць, што лёзунгі ў іх як бы й зусім людзкія — рабоча-сялянскія — а вось практыка іхняя—на руку буржуазіі і абшарніцтву. Памятаем добра, як у часе мінулых выбараў у Сойм і Сэнат польская „народная“ партыя „Вызволене“ на кожным мітынгу дакляравала нам праз сваіх аратараў усё, што хочаце, ад зямлі да нацыянальных школаў, а ў Сойме паранейшаму галасавала за калянізацыю нашых земляў польскімі асаднікамі. Калі-б гэтая партыя шчыра баролася за нашу нацыянальную школу, дык яна не паслала-б свайго старшыню Тугутта ў камісію Станіслава Грабскага, цяперашняга міністра прасьветы, дзеля апрацаваньня куртатых языковых законаў, якія, як ужо ўсім вядома, саўсім не спаўняюцца на практыцы і засталіся адно толькі на паперы.

Тымчасам якое-небудзь гэткае „Вызволене“, разваліўшыся на розныя кавалкі, пэўна-ж у новай, як той казаў, скуры спрабуе выступіць перад беларускім народам падчас новых выбараў. А пэ-пэ-эсы дык ужо кінуліся на гэткую гнюсную хітрасьць: пачалі загадзя сярод самае няшчаснае часьці нашага сялянства — ў нашым цёмным Палесьсі—пушчаць сваю газэту „Красное Знамя“ ў... расейскай мове.

Што можа быць супольнае паміж польскімі „соцыялістымі“ і палескім сялянствам? „Соцыялістыя“ польскія, якія ашукваюць навет і сваіх *польскіх* сялян і работнікаў, ніколі ня могуць шчыра бараніць інтарэсы бедных паляшукоў. А вось абяцанак, разьлічаючы на нашу мужыцкую цемнату, дык напэўна насыплюць усялякіх. Пастараюцца, напэўна, даказаць нам, паводле свае польскае прыказкі, што й на вярбе ў Польшчы могуць расьці грушкі.

А нам цяпер ужо пара падумаць, што рабіць пры выбарах, каб не памыліцца, ды не нашкодзіць самым сабе.



## Пратэст Беларускага Студэнцтва.

З Прагі мы атрымалі ніжэйпаданую рэзалюцыю пратэсту беларускага студэнцтва ў Празе проці агіднае брахні дэфэнзыўнай прэсы ў беларускай мове, выдаванай у Вільні на грам. Антона Луцкевіча:

„Беларускае студэнцтва, сабранае на сходцы 20 сакавіка г. г.—бяз розьніцы палітычных кірункаў, абгаварыла справу брутальнага паходу вырадкаў беларускае інтэлігенцыі, згрупаванай каля дэфэнзыўнай польскай газэты ў беларускай мове „Беларускае Слова“, проці заслужонага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча, у зьвязку з агульным паходам проці яго польскай адміністрацыі. Сабраньне канстатуе факт, што названы паход зьяўляецца адбіткам агульнага жорсткага тэрору польскай буржуазіі проці ўсяго, што носіць адзнаку сьвядомага імкненьня беларускіх працоўных грамад да вызваленьня... (далейшыя словы прапускаем з увагі на цэнзурныя варункі.—*Рэд.*). Паход проці грам. Луцкевіча ёсьць выраз агульнае сыстэмы ўціску беларускага народу—з мэтай дыскрэдытаваць увесь беларускі рух.

„Проці ўсяго гэтага Сабраньне з абурэньнем пратэстуе. Сабраньне кляйміць ганьбай тых прадажнікаў, якія, асьмеліваючыся называць сябе беларускімі дзеячамі, выпаўняюць загады польскай дэфэнзывы і абліваюць гразёю выбраньнікаў і павадыроў беларускага народу. Сабраньне заклікае ўсіх чэсных грамадзян і ўвесь беларускі працоўны народ да актыўнага змаганьня проці прадажнікаў і да байкоту іх.

„Будучы пэўныя ў вачавіднай хлусьні дэфэнзыўнага органу, сабраныя выказваюць гр. Луцкевічу свае гарачае спаўчуцьцё.

„Няхай жыве беларускі працоўны народ і яго змагары!

„Ганьба прадажнікам, ганьба служкам паноў! На чорную дошку імёны Павлюкевічаў, Валэйшаў і іх хэўры!“

Старшыня Сабраньня: (—) **Клагіш.**

Сэкрэтар: (—) **М. Шыманко.**

Прага. 20. III. 1926.

Перш за ўсё трэба памятаць, што сваёй бядзе мы самі павінны даць раду. А адсюль ясны вывад, што ніякіх польскіх партыяў нам і слухаць ня трэба, ня кажучы ўжо аб тым, каб марнаваць на іхнія сьпіскі (лісты) свае беларускія працоўныя галасы. І гэта вось чаму.

Польшчаю кіруе ўрад, зложаны з паноў, якім памагаюць цяпер гэтак званыя хрысьціянскія дэмакраты або, як коратка завуць іх, хадэкі і польскія соцыялістыя ці коратка—пэ-пэ-эсы (папольску пэпэсовцы).

Адкуль-жа гэткі дзівачны хаўрус паноў з нібыто дэмакратычнымі (народнымі) партыямі?

Справа вельмі простая. Польскія паны нічагусенька не навучыліся за час польскае нацыянальнае няволі, г. знача за той час, калі польскае дзяржавы ня было. Паном гэтым ўсё яшчэ здаецца, што жывуць яны ў старой Польшчы, дзе шляхціц значыў усё, а мужык — нічога. Не дарма-ж яны і завуць Польшчу ўваскросшаю. Не хапае ім толькі магчымасьці ўваскрасіць усе яе старыя парадкі. І гэтай магчымасьці яны напэўна не дачакаюцца, бо мужык перастаў быць прыгонным, пачаў разумець сам свае справы і панскай апекі ані не патрабуе.

Пану мужык давяраць ня можа, дык і выходзіць, што трэба паном шукаць супалкі з рознымі сваімі паслугачамі: вызваленцамі, пэ-пэ-эсамі, хадэкамі і гэтак далей.

Усе польскія партыі лучыць адно: *жаданьне бачыць Польшчу вялікаю дзяржаваю* „ад мора да мора“, як яны казалі калісь. Гэткае імкненьне павучонаму завецца *імпэрыялізмам*. А значыцца і ўсё польскія партыі— імпэрыялістычныя. Яны разбудоўваюць дзяржаўны апарат вельмі шырока, саўсім не па кішані, вялізная армія салдатаў, паліцэйскіх і ўсялякіх наагул вураднікаў каштуе шмат, а адсюль і непасільны падатковы цяжар ды дарагоўля жыцьця.

Другое, што лучыць усе польскія партыі — гэта імкненьне да таго, каб усё няпольскае насяленьне Рэспублікі спольшчыць. Паны аб гэтым гавораць і пішуць адкрыта, а гэткія вось „соцыялістыя“, як пэ-пэ-эсы, публічна да гэтага прызнацца стыдаюцца. Тымчасам у практыцы сваёй супрацоўнічаюць з панамі разам, ідучы навет у міністры. І калі міністар прасьветы пан Ст. Грабскі і ня думае даць беларусам або ўкраінцам іхняе нацыянальнае школы, дык міністар з пэ-пэ-эсаў аб гэтым маўчыць, седзячы ў адным і тым самым урадзе разам з панам Грабскім. Міністар—пэ-пэ-эс лічыць больш важнаю дзяржаўнаю справаю пытаньне аб тым, ці паменшыць дзяржаўным ураднікам пэнсію, ці не, як пытаньне аб роднай школе для непалякоў. А першая з гэтых справаў зусім простая—калі не хапае ў дзяржаве грошай на павялічэньне ураднікам пэнсіяў, дык ніяк іх і не павялічыш, у той час як другая справа — нашыя школы — ніякіх над звычайных расходаў не вымагае.

З беларусамі-ж польскіх паноў нічога лучыць ня можа. Наш народ-працоўны, бо беларусы складаюцца з сялянства ды гарадзкіх работнікаў і працаўнікоў-інтэлігентаў. Беларус мусіць неяк сам працаваць, каб меў за што жыць. Ен і працуе: то як земляроб, то як фабрычны рабочы, ці часам як пісьменьнік або як настаўнік ці проста як канцэлярысты. Гэтак беларусы складаюць адну працоўную сялянска-работніцкую грамаду, калі ня лічыць інтэлігентных сыноў беларускага народу, што зьяўляюцца ў гэтай грамадзе нязначнаю меншасьцяй.

І толькі цесна лучачыся ў сваю **беларускую сялянска-работніцкую грамаду** можна нам мець паважную сілу і вагу ў Польшчы. Да гэткае грамады ня толькі паны абшарнікі ды фабрыканты ніяк не падлезуць, а не ашукаюць яе і панскія паслугачы.

Дасюлешнія спробы паноў пахіліць у свой бок беларусаў не ўдаліся і вылілiся ў форму нічым не заслоненага наймiцтва. Бо ёсьць у Вільні ўсяго некалькі чалавек расейскіх эмігрантаў на чале з Паўлюкевічам, якія завуць сябе „Часоваю Беларускаю Радаю“, адтрымліваюць ад ураду грошы ды чмуцяць нашыя галовы сваею газэткаю „Беларускае Слова“, наймаючы сабе пару галодных беларусаў-інтэлігентаў, каб гэтую газэтку пісалі. І гэткія „часовыя“ нашыя дабрадзеі таксама, відаць, рыхтуюцца да новых выбараў, каб замуціць цесныя рады нашае працоўнае грамады. Але-ж хіба толькі вар'ят ці апошні вырадак можа падаць свой голас за гэткіх наймітаў, бо кожны, хто яшчэ носіць на плячох здаровую галаву, ведае, што „часовая“ павлюкевічава рада складаецца з тых, хто паваяваў ліха ведае на што або ў радох Дэнікіна, або ў Махно, або ў Савінкова ды Балаховіча—проста, хто плаціў, таму і служылі. А дзеля таго, што беларускі народ вельмі бедны на тое, каб папанску плаціць, дык яму гэтыя ягамосьці ніколі служыць і ня будуць. Народу служыць толькі інтэлігэнцыя ідэйная, якая ў імя яго лепшае будучыны аддае ўсё, не баючыся навет і вастрогаў ды ўсялякіх прасьледаваньняў з боку дужэйшых гэтага сьвету.

Могуць разьбіваць нашыя працоўныя рады і некаторыя, на-жаль, запраўды беларускія групы, як, напрыклад, „Беларускі Сялянскі Саюз“: верхаводы гэтага Саюзу ня то што зьбіваюцца з дарогі і блудзяць, а проста вырабляюць сабе асабістую кар'еру. Дык і за імі народ ня пойдзе.

Неспадзявана, як грыбы пасьля цёплага дожджыку, могуць павыскокваць перад самымі выбарамі ізноў розныя „актывісты“, „зялёнадубцы“ і іншыя досіць спрытныя агітатары — чужацкія найміты з беларускімі толькі вывескамі. Ну, але іх напэўна чакае тое самае, што ўжо з імі ў 1922 годзе было: ніхто за іх голасу ня дасьць.

З усяго, як бачым, вывад адзін: беларусам трэба трымацца свае сялянска-работніцкае грамады, верыць у свае ўласныя сілы. Ніякіх польскіх партыяў, ня гледзячы на ўсё прыгожыя іхнія абяцанкі, не падтрымліваць, бо апякліся ўжо мы добра на розных „Вызволенях“, „Пэ-Пэ-Эсах“ і інш.

А каб справа нашая разьвівалася шыбчэй, дык узмацніць трэба пашырэньне тых сваіх **ідэйных** часопісяў, якія імкнуцца да аб'яднаньня ўсіх працоўных беларусаў-сялян і работнікаў, трэба выпісьваць іх, не шкадуючы аднаго-другога злотага на падпіску.

Хто толькі можа, павінен выпісваць і сваю родную літэратуру, бо родная кніга ўзмоцніць нас культурна,—праз яе шмат паменшыцца сярод нас цемнаты. А як ня будзем сьляпымі, дык ніхто нас так лёгка ўжо не ашукае.

Падўмайма аб гэтым, маючы час, і зрабем, што можам.

**Я. Малазямельнік.**

## Голас Палесься.

Горка твая доля,
Бедны мужычок!
Калі ты дажджэшся
Зямліцы кусок?

Кожны пацяшаець,
Што йшчэ мо' дадуць...
Мы-ж веры ня маем:
Па кішэні б'юць!

**Шумачэнка-Нядоля.**

# Аб чым пішуць.

### Новы курс.

Ксяндзоўскі орган „Biełaruskaja Krynica“ ў апошнім нумары (з 11 красавіка) крыху прыадкрывае заслону над тым, куды кіруецца новастворaны ксяндзоўска-„сялянскі“ саюз. У перадавой стацьці газэта раўнуе палажэньне беларускае справы ў Радавай Беларусі і пад Польшчай і робіць зусім неспадзяваны вывад: што Усходняя Беларусь „ня можа навет думаць, каб трапіць чым небудзь да пракананьня жыхаром Заходняе Беларусі“. Наадварот: „справа беларушчыны пад Польшчай не безнадзейная“,—кажа газэта:

> „Пад Польшчай пры дружнай арганізацыі і сьмелай рабоце мы за пару гадоў павінны дабіцца ўсіх належных нам культурных, эканамічных і грамадзкіх правоў“...

Гэтак думалі беларусы пад Польшчай перад выбарамі ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе. З таго часу мінае ўжо ня „пара“, а чацьверты год, і беларусы ня толькі ніякіх правоў пад Польшчай не дабіліся, а аказаліся пазбаўленымі шмат чаго такога, што мелі раней!

Дык на якой падставе „айцы духоўныя“ стараюцца падтрымліваць сярод каталікоў-беларусаў манлівую надзею на дабрадзействы Польшчы?

Тут гожа адзначыць даволі красамоўны факт, які сьведчыць аб цікаўным нахіле ксяндзоўска-„сялянскае“ прэсы: і „Biełaruskaja Krynica“ і „Сялянская Ніва“ дыпляматычна ўтаіваюць ад сваіх чытачоў факты адміністрацыйных гвалтаў над культурнымі беларускімі ўстановамі, як, да прыкладу, беспадстаўная забарона новым віленскім кураторам выкладаньня ў віленскай беларускай гімназіі найстарэйшаму з беларускіх адраджэнскіх дзеячоў, грам. Луцкевічу, процi якога вядзецца ўжо даўно спэцыяльны паход дэфэнзыўнай прэсы. Сваім маўчаньнем ксяндзоўска-„сялянская“ прэса

# Дэманстрацыі безработных.

### У Варшаве.

9 красав. ў Варшаве перад гмахам міністэрства Працы сабралася вялікая таўпа безработных. Дэлегацыя безработных пайшла да міністра Земенцкага (пэпээсаўца).

Але міністра-сацыяліста—у 12 гадз. дня—неяк нажаль „не аказалася“ ў міністэрстве. а мо і ў Варшаве. Дык яго таварышы парадзілі дэлегацыі—„прыйсьці заўтра“...

Гэты адказ выклікаў страшэннае абурэньне таўпы, якая пачала крычаць, трэбуючы працы... Няведама, да чаго-б дайшло. Але на ўслугах міністра-сацыяліста ёсьць у Варшаве найлепшая ў краі паліцыя, якая і пачала „працаваць“, пакуль таўпа не „разыйшлася спакойна“.

У наступныя дні падобныя-ж выступленьні безработных адбываліся чуць ня што-дзенна.

### У Львове.

У месьце, як пішуць газэты, штодзенна адбываюцца дэманстрацыі дробных кучак безработных—то перад гмахам магістрату, то перад біржай працы. Але 8 красав. сабралася, ня гледзячы на перашкоды з боку паліцыі, вялікая таўпа, якая зьвярнулася да магістрату, даведаўшыся, што ён атрымаў быццам 600.000 зл. на публічныя работы. Але львоўскі прэзыдэнт места дэлегацыі безработных ня прыняў. Тады таўпа пайшла да ваяводы. Той неяк здалеў „супакоіць“ дэлегацыю, і таўпа разыйшлася дамоў, сытая, відаць, адным панскім словам.

### У Люблiне.

Пасьля першай дэманстрацыі, каштаваўшай работнікам безработным некалькіх ахвяр, 8 красавіка ізноў пачалі хвалявацца і зьбірацца на дэманстрацыі безработныя, якіх — у адказ на іх дамаганьні працы і хлеба — толькі разагналі ды пабілі.

Таўпа безработных ізноў прабавала ўварвацца ў гмах магістрату, але ізноў была разагнана паліцыяй. „Robotnik“ паведамляе, што камуністы выдалі адозву з заклікам работнікаў чыгункі і вадаправоду падтрымаць сваіх безработных таварышоў забастоўкай. У месьце шмат новых арыштаў.

# З падарожы па Радавай Беларусі.

З Ленінграда 6 асоб нашай дэлегацыі паехалі на Украіну, а 2, г. зн. я і п. Ярэміч, на Беларусь.

19 студня мы былі ўжо ў Менску — сталіцы Беларусі. Перш, чым прыступіць да апісаньня таго, што мы бачылі, хачу сягнуць назад і хоць пару слоў сказаць аб гісторыі ўтварэньня Радав. Беларусі.

### Арганізацыя БСРР.

У сьнежні м-цы 1917 г. быў склiканы ўсебеларускі кангрэс, на якім прысутствавалі аж 1872 дэлегаты. Кангрэс гэты ўвайшоў у канфлікт з Радавай Уладай і быў распушчаны.

У 1918 г. Менск і большая частка тэрыторыі Беларусі папала пад нямецкую акупацыю. Дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі прыпынілася. Толькі дзякуючы нямецкай рэвалюцыі, Беларусь ачышчаецца ад акупантаў і 1 студзеня 1919 году ўрачыста абвяшчаець сябе Незалежнай Радавай Сацыялістычнай Рэспублікай. Вайна паміж Радамі і Польшчай яшчэ доўгі час не дае магчымасьці прыступіць да арганізацыі сталае ўлады. Менск пераходзіць з рук у рукі, і толькі 1 жніўня 1920 года Радавая Улада, заняўшы Менск, другі раз абвяшчае Беларусь Незалежнай Рэспублікай. Спачатку Беларусь прадстаўляла маленькую Рэспубліку, якая мела толькі 6 паветаў, але 4 лютага 1924 г. В. Ц. И. К. пастанаўляець далучыць да яе 8 пав. б. Віцебскай губ., 6 пав. і 11 валасьцей Гомельскай губ. (бышт. Магілёўскай) і 1 павет і 4 воласьці з гор. Мсьціслаўлем, Смаленскай губ. Вось з гэтых-та зямель і зложана цяперашняя Радавая Беларусь. Адміністрацыйна дзеліцца яна на 10 вокругаў, кожны вокруг мае па 10 раёнаў, а кожны раён 10 сельсаветаў, такім чынам у-ва ўсей Рад. Беларусі—1000 сельсаветаў. Праўда, ня ўсе этнографічна беларускія землі сабраны на Усходзе каля свайго цэнтру: Гомельшчына і часткі Віцебшчыны і Смаленшчыны чакаюць на той час, калі будуць далучаны да Рад. Беларусі. Хочацца верыць, што работніцка-сялянская ўлада гэта зразумеець і закончыць распачатую працу аб'яднаньня Усходняй Беларусі ў неразрыўную моцную дзяржаўную адзінку—Вольную Беларусь. Згодна з канстытуцыяй, усе Радавыя Рэспублікі зьяўляюцца вольнымі і незалежнымі. Маюць свае асобныя ўставадаўчыя ўстановы і свае Ц. К. Упраўляюцца ўласнымі Радамі (Саветамі) Нар. Камісараў. Толькі частка камісарыятаў, як напр.: войска, грошы, пошта, чыгунка і кіраўніцтва камісарыятам замежных спраў знаходзіцца ў руках Усесаюзнага Ураду ў Маскве. Прадстаўнікі, ці камісары, гэтых камісарыятаў назначаюцца са згоды Ц. К. данай Рэспублікі. Так напр. камісар вайсковых спраў Адамовіч—беларус, пошты—Грыдзюшка, таксама беларус, зьяўляюцца даверанымі людзьмі як цэнтральнай Улады, так і мясцовага Ц. К. Дзеля зашчыты інтарэсаў Рэспублікі перад Цэнтральным Урадам ёсьць сталы прадстаўнік у Маскве. Такім прадстаўніком Беларусі зьяўляецца Паўлюкевіч.

### Зямельнае пытаньне.

Даўшы кароткі агляд дзяржаўнае будоўлі Беларусі і яе адносін да Саюзнага Ураду, я хачу нарушыць свой спосаб апісаньня ў хронологічэскім парадку, якім я карыстаўся дагэтуль, і перайсьці к апісаньню па аддзелам. Справа ў тым, што ў Менску прыходзілася бачыць і знаёміцца з рознымі галінамі жыцьця Рад. Беларусі. Бязумоўна, адным з найцікаўнейшых пытаньняў было і ёсьць правільнае вырашэньне зямельнага пытаньня.

Камісар зямельных спраў Прышчэпаў даў нам досіць падробныя інфармацыі ў справе зямельнай рэформы на Беларусі. У часы рэвалюцыі ў рукі сялянства перайшло больш як **1.000.000 дз. зямлі**. Грамадзкая вайна і недахват каморнікаў не давалі магчымасьці зразу выйсьці на шлях правільнага разьдзелу і карыстаньня панскімі маёнткамі. Дзеля гэтага першыя гады зямлёй карысталіс хаотычна, бяз жадных норм і парадку. Толькі ў 1924—25 г. пачынаецца новая эра зямляўпарадкаваньня. Назначаюцца больш-менш раўнамерна на раёны каморнікі і аграномы, якія, на падставе ўстаноўленых законаў, прыступілі да працы.

Аснаўное правіла — стараюцца, каб ня было гаспадаркі меншай чым 6—7 дзесяцін. Норма трудавой адзінкі ад 16 гадоў—3 дзес., ад 12—16 гадоў—$^1/_2$ трудавой нормы, ці $1^1/_2$ дзес. і да 12 г.—$^1/_4$ труд. нормы, або $^3/_4$ дзес. Максімум для 4 труд. адзінкі 12 дзесяцін, а калі больш ад 4-х то можа дайці і да 24 дзес. Вядома, што ў практыцы жыцьцёвай ёсьць адхіл то ў адзін, то ў другі бок. Так напр., спатыкаў я гаспадароў, якія маюць і карыстаюцца і да сёньняшняга дня 40—50 дзес. зямлі і, наадварот, падмястовыя сяляне часам маюць і менш памянёнай нормы. Форма зямляўстройства—па выбару сялян: пасёлак, хутар, абшчына. Да 1925 г. з новых гаспадарак 20% вышла на хутары, 80% на пасёлкі і толькі нязначная частка сялян выбрала сабе обшчынную форму зямлякарыстаньня. Савецкіх маёнткаў, ці „саўхозаў“ — 166, пад якімі знаходзіцца каля 100.000 дзес. зямлі, або 0,6 усей зямельнай плошчы. Заданьне Саўхозаў — быць паказнай гаспадаркай для суседніх вёсак. Там гадуецца заводная скаціна, як коні, каровы і інш., якімі тым ці іншым спосабам надзяляюцца і сяляне. Саўхозы на сваіх палях тасуюць новыя мэтады зямлякарыстаньня. Уводзяць абработку зямлі машынамі, як трактары сеялкі, жнейкі і т. д. Усе гэтыя навінкі павінны служыць, як добры прыклад гаспадаркі для сялян. Тыя-ж саўхозы, якія прыносяць страты, ці не адпавядаюць дадзеным заданьням, касуюцца і парцэлююцца паміж беззямельнымі.

Вёска прачнулася. Стараецца падняць выдайнасьць зямлі. Старая трахпалёўка аджыла свой век і жыцьцё вымагае пераходу на шматпольле. Дзеля гэтага вялікі попыт на зямлямераў і аграномаў. Пры дапамозе апошніх, стараюцца паправіць грунт, каб атрымаць найбольш даходу і палепшыць пароды дамовае жывёлы. Летась частка

як-быццам адобрыла гэную забарону: „cum tacent clamant!“ (маўчаньнем яны вельмі многа гавораць...).

Стаўляючы ўсё гэта побач, прыходзіцца сцьвярдзіць, што „Bieł. Krynica“ і „Сялянская Ніва“ выразна бяруць **„курс на Варшаву“**. Дый гэта рэч зразумелая: ня могуць жа буржуазныя беларускія партыі спагадаць імкненьням працоўнае сялянскае і мястовае беднаты!

### Апошнія аргумэнты.

Орган паслоў Рагулі і Ярэміча „Сялянская Ніва“ ніяк ня можа пераканаць сваіх чытачоў у патрэбе аддзяленьня сялянскага руху ад работніцкага. На „зьезьдзе“, скліканым гэнымі панамі ў Вільні, тварцы „Сялянскага Саюзу“ пераканаліся, што вёска ўжо зразумела патрэбу аб'яднаньня працоўных вёскі і места; дык вось „Сялянская Ніва“ пачала карыстацца адзіным астаўшымся ёй аружжам: яна—далікатна кажучы — „перайначывае“ праўду!

Нядаўна гэная газэта, каб падбурыць сялян проці работнікаў, надрукавала запраўды-ж дзіцячую выдумку аб тым, быццам работніцкія партыі „імкнуцца“ да адабраньня ў сялян зямлі і аддачы іх абшарнікам,—хаця за зямлю для сялянства першыя пачалі бароцца іменна сацыялістычныя работніцкія партыі! Цяпер ізноў пекную „красачку“ знаходзім у № 12 гэнае часопісі. Тлумачучы, чаму сярод беларускіх паслоў стаўся падзел, орган п. п. Рагулі і Ярэміча піша гэтак:

— Прычын на гэтае было многа, а галоўнае, што нашы паслы не маглі пагадзіцца, **каго паддзяржаць у Беларусі: работніка ці селяніна.** „Грамада“ казала, што трэба паддзяржаць перад усім работніка, бо ў работніку ўся сіла, а Саюз казаў, трэба паддзяржаць перад усім селяніна, бо ў селяніне ўся сіла. На гэтым заспорылі і падзяліліся. Тыя, што думалі паддзяржаць перад усім работніка стварылі **„Сялянска-Работніцкую Грамаду“**, а тыя што паддзержываюць перад усім сялян, залажылі **„Сялянскі Саюз“.**

Вось табе і на! Проста і ясна! На жаль, толькі п. п Рагуля і Ярэміч „не заўважылі“, што Грамада — то якраз затым і называецца **Сялянска-Работніцкай**, што маніцца **злучыць сялян і работнікаў дзеля ўзаемнага падтрыманьня!** Калі-б было інакш, дык была-б гэта проста Работніцкая Грамада...

П. п. Ярэміч і Рагуля самі вельмі добра ведаюць, як далёка яны адыходзяць ад праўды. Але-ж іншых „аргумэнтаў“ дзеля апраўданьня свайго „новага курсу“ ў іх ужо няма...

## Арышт шпіёнау у Вільні.

8-га красавіка віленская палітычная паліцыя высачыла і заарыштавала тры асобы з „вышэйшага польскага грамадзянства“, якія, паразумеўшыся з адным з варшаўскіх афіцэраў, залажылі шпіёнскую супалку, прадаваўшую на карысьць Літвы, а мо' і Нямеччыны і СССР. Гэтая супалка даставала ў Варшаве вялізарнага значэньня ваенныя пляны і дакумэнты дзеля прадажы літоўскай разьведцы. Паміж іншым — плян тэлефоннай сеці між рознымі корпусамі польскай арміі і інш.

Хто-ж такія гэтыя шкодныя шпіёны? Пэўне, розныя „камунісны“: жыды, беларусы, украінцы — ворагі паньствовосьці польскай? Не! Усе 4 злоўленыя дагэтуль шпіёны ня толькі „шчырыя“ палякі, але, за выключэньнем аднаго варшавяка, належаць навет да „сьмятанкі“ мясцовага польскага грамадзянства.

Першы—„добра ведамы ў колах віленскай інтэлігенцыі п. Турно Славіньскі, былы ротмістр польскай жандармэрыі і начальнік коннай паліцыі ў нейтральным пасе“ (на літоўскай граніцы).

Другі—„душа ўсей арганізацыі, п. Вэрыга-Даровскі, стрэчны брат... пана лодзкага ваяводы“ (былага міністра Працы) Даровскага. Гэты „брат ваяводы“ ведамы ўжо з афэры фальшаваньня чэкаў на 60.000 зл. ад імя аднэй з віленскіх фірмаў.

„Трэцім супольнікам зьяўляецца п. Козел-Поклевскі, былы падкамісар коннай паліцыі м. Вільні“.

Усе гэтыя даныя ўзяты намі з чыста польскай мясцовай газэты — „Dziennik Wileński“. Віленскае „Słowo“ дае крыху іншую, але асабліва пікантную для віленскай палітычнай паліцыі, характэрыстыку Турно Славіньскага:

„Быў ён у сваім часе камісарам граічнага руху ў пагранічнай паласе між Польшчай і Літвой... Славіньскі быў ублутаны ў **найцямнейшыя афэры і праступленьні крымінальнае натуры. Пазбаўлены афіцэрскага чыну**, экс-камісар Турно-Славіньскі... укруціўся **ў палітычную паліцыю ў Вільні**, дзе служыў, **як канфідэнт у камісара Олендзкага.** Сваё становішча і правы экс-камісар-канфідэнт выкарыстаў дзеля шпіёнскіх мэтаў. Карыстаючыся службовымі дагоднасьцямі і адносінамі да асобы свайго камісара Олендзкага, пачуваў сябе Славінскі ў сваей атмосфэры знамяніта“.

Гожа адзначыць, што імя п. Олендзкага цесна зьвязана з „прадпрыемствамі“ так-жа Валэйшы і Павлюкевіча, а імя апошняга—з дабываньнем некаторых дакумэнтаў ад „прыяцеляў“ з Коўны...

Чатыры дні ня можна было публікаваць ніякіх вестак аб гэтых арыштах, але цяпер, калі паліцыя зрабіла сваё і справа аддана пракуратуры, дык усё надрукавана ў газэтах.

Якіх яшчэ трэба шукаць „унутраных ворагаў“ у Польшчы, калі так сымвалічна ў гэтай „суполцы“ прадстаўлены ўсе падставовыя элемэнты сучаснай буржуазнай Польшчы: войска, жандармэрыя, паліцыя і бюракратыя?!

Здавалася-б, што якраз толькі гэтым элемэнтам—„абаронцам“ дзяржавы — добра жывецца ў Польшчы. Аднак-жа, іменна яны згаварыліся з **замежнымі** ворагамі сваей дзяржавы, каб тыя лягчэй разьбілі яе.

## Французскія справы.

(ад уласнага карэспандэнта).

Маральная струхлеласьць францускай буржуазіі, у якой яе мілітарная перамога над Нямеччынай адабрала, здаецца, апошнія рэшткі яе былога „здаровага розуму“ (bonsens), ярка выразілася перад усім у яе поўным фінансава-гаспадарчым бяссільлі. І гэта аканчальна кампрамітуе Францыю ў вачох усяго сьвету.

Папросту агідна глядзець, як у працягу некалькіх гадоў—у слаўнай „школе“ п. п. Клемансо-Пуанкарэ, школе, пабудаванай на паразітнай думцы аб „вечным вызыску“ пабітай Нямеччыны, — пайшоў катастрафічны развал усяго панаючага францускага грамадзянства.

Ядам сваей паразітнай псыхікі француская буржуазія ня толькі руйнуе самыя падставы свайго-ж дзяржаўна-сацыяльнага ладу, ня толькі заражае шырокія масы свайго народу, але атручывае і разваліве і цэлыя чужыя дзяржары, якія яна штучна разбудавала „па-над стан“ — дзеля падтрыманьня „францускай дыктатуры ў Эўропе“... І—ці-ж кожны з вас, беларусаў, не адчувае на сваім жыцьці гэтых агідных, маральна і гаспадарча раскладаючых уплываў "францускай хваробы" на кожным кроку—ў Польшчы?

* * *

Гэтая агідная і недарэчная ў XX веку паразітная псыхіка францускай буржуазіі ўжо дорага каштавала краю. — Якраз дзякуючы ёй, Францыя катастрафічна ляціць уніз з тэй вышыні, на якую ўзьняслa яе „перамога“ над Нямеччынай. Маральная павага Францыі, узьнесеная на нябывалую вышыню геройчнай ахвярнасьцю ўсяго народу, бараніўшага бацькаўшчыну ад нямецкага мілітарызму, пасьля перамогі—разьвеялася як дым.

Дый урэшце і сам народ добра зразумеў, што яго кінулі на нячувана крывавую бойню ў роўнай меры свае ўласныя францускія мілітарысты, як і нямецкія... — А ўсе тое, што вычварала пасьля „міру“ азброеная да зубоў француская буржуазія над пабітым і разброеным нямецкім народам,—у сто разоў агідней і падлей за ўсё, на што йшоў—у запале адкрытых і роўных баёў—нямецкі мілітарызм.

Тая-ж паразітная псыхіка скампрамітавала дарэшты францускае гаспадарства і ў галіне фінансава-эканамічнай, у якой заўсёды славілася, як першая ў сьвеце, француская буржуазія. Цяпер ужо ўсім ясна, што фінансавы развал Францыі пайшоў ня столькі ад фінансавага вычарпаньня краю—ў выніку вайны, сколькі якраз ад тэй глыбака ўкаранеўшайся ў сьведамасьці ўсяго францускага грамадзянства думкі, што францускаму народу—пасьля перамогі—саўсім ня трэба ўжо ні аб чым клапаціцца, а перад усім — ня трэба плаціць ніякіх падаткаў, бо за ўсё будзе плаціць пабіты нямецкі народ... А каму-ж ня ясна, што акурат такім-жа паразітным ядам атручана было і створанае францускай буржуазіяй — польскае гаспадарства?!

* * *

Дык вось, калі аказалася, што няма дурняў у Нямеччыне, каб утрымліваць на сваім карку штосьці на працягу 60 гадоў францускую дзяржаву,—тады і пачаліся фінансавыя клапоты францускіх урадаў. Пачалі зьяўляцца, толькі дзеля таго, каб зваліцца адзін за адным, усе найслаўнейшыя фінансісты краю... За ўвесь час ад Вэрсальскага міру зьмянілася нешта каля двух дзесяткаў міністраў фінансаў! За адзін толькі мінулы год іх зьляцела аж 6. Але што-ж можа парадзіць навет найлепшы з іх, калі самае заданьне, якое стаўляе француская буржуазія,—па сутнасьці нявыпаўніма?!

Француская буржуазія хоча ня толькі ўтрымліваць сваю каштоўную дзяржаўную гаспадарку, ня толькі мілітарна і палітычына кіраваць Эўропай, але датаго яшчэ і імпэрыялістычына панаваць на сусьветнай арэне, канкуруючы з найбагацейшымі краямі сьвету, і ўсе гэта — ня плацячы

„Саўхозаў“ зьліквідавана, што, пры далучэньні некатарых вучасткаў з-пад лесу, зложыла запасны зямельны фонд у 600—700 тысяч дзес. Гэты запас павінен быць распарцэляваны ў працягу трох гадоў. Сельска-Гаспадарчы Банк праз сваю крэдытную каапэрацыю дае пазычкі дзеля папраўкі гаспадаркі—кароткатэрміновыя да 1 года па 10% гадавых і ад 1 да 5 лет па 6% гадавых.

Як паказываець статыстыка, у Рад. Беларусі ёсьць каля 1.000.000 дз. зямлі пад кустамі і тарфянікамі і каля 1½ міл. дзес. пад балотамі. Дзеля гэтага адным з баявых заданьняў ёсьць асушка гэтых балот і меліарацыя грунту. Галоўная праца праводзіцца на кошт дзяржавы, але даецца падтрыманьне і прыватнай ініцыятыве. Дзеля гэтага творацца меліорацыйныя т-вы, якія атрымліваюць ад дзяржавы 10 ці гадовы крэдыт па 4% гадавых. Зямля, асушаная і мэліарызованая прыватным т-вам, ці асобнымі сялянамі, у склад зямельнай нормы не залічаецца. Маюць на мэце кожныя пяць год мэліараваць 400—500 тысяч дзесяцін, што і дасьць новы запасны зямельны фонд дзеля надзяленьня беззямельных.

Ведама-ж, гэтыя меры толькі часткова задаволяць жыхарства краю. З прычыны нястачы зямлі наагул прыходзіцца шукаць вольных зямель у другіх рэспубліках. Такія землі ёсьць у Сібіры, па Волзе і ў Крыме, куды і праектуецца перасяліць жадаючых.

Гаворачы аб перасяленьні і калянізацыі, ня можна ня ўспомніць жыдоўскага пытаньня. Справа ў тым, што прыватная таргоўля, якая амаль што ня ўся знаходзілася ў руках жыдоў, цяпер пераходзіць у рукі каапэрацыі. Зьявілася маса безработных жыдоў, якім прышлося шукаць другіх заняткаў. Частка з іх пажадала пайсьці на зямлю. Радавая Улада пайшла на спатканьне гэтым жаданьням і вызначыла для жыдоўскае калянізацыі ў 1925 годзе 9.633 дзес. зямлі. Ясна, што гэтага было мала, каб здаволіць 32.000 жыдоў, якія пажадалі сесьці на зямлю, і дзеля гэтага на 1926 год праектуецца даць яшчэ 56 тысяч дзес. у Беларусі, а рэшта будуць пераселены ў іншыя Рэспублікі (Крым).

Тут мушу сказаць з пару слоў аб жыдоўскай калянізацыі ў Крыме. Часта чуеш, што жыдам даюць у карыстаньне найлепшыя крымскія вінаграднікі і наагул лепшую зямлю. Гэта нязгодна з праўдай, бо жыдам адводзіцца ў Крыме якраз тая зямля, гдзе яшчэ ніхто не карыстаўся, г. зн. балоты. Пры дапамозе амэрыканскіх сіоністычных арганізацыяў і іх даляраў жыды прыступілі да культывізацыі гэтых балот. Толькі пасьля асушкі балот і правядзеньня меліарацыі прыступаюць да калянізацыі прыгатоўленых абшараў праз жыдоў.

Вось так выглядае вырашэньне зямельнага пытаньня ў Беларусі. Быў хаос, але памаленьку ўсё прыводзіцца ў парадак. Ёсьць пэўнасьць за заўтрашні дзень.

### Л е с.

Разам з зямлёй вызваліўся ад панскай апекі і лес, які перайшоў пад кіраўніцтва дзяржавы. Да гэтага году карысталіся лесам на агульных падставах, выпрацаваных цэнтральнымі органамі Улады. Для сялянства гэта было нявыгадна дзеля таго, што ў кожнай мясцовасьці былі свае асобныя варункі. Прадбачыць гэтага закон ня мог, вось дзеля гэтага і парашылі **ўсе лясы так-зв. мясцовага значэньня аддаць сялянам.** 20-га студзеня 1926 г. Сав. Нар. Кам. Беларусі апрацаваў праект закону аб перадачы гэтых лясоў, але патрэбна было яшчэ даведацца, як на гэта заглядаецца само сялянства. Дзеля гэтага зьбіралі ў якім-небудзь район зьезд прадстаўнікоў вёсак і сельсаветаў і тварылі як-бы маленькі „парлямант“ дзеля зацьверджаньня, ці зьмены праекту закону.

На такім „парляманьце“ ў Заслаўлі 24-га студзеня гэтага году пабывалі і мы. Зьезд распачаў сваю працу пад кіраўніцтвам старшыні Народнага Каміс. Адамовіча. Спачатку быў прачытаны праект закону, які апрацаваў Савет Народных Камісараў. Па гэтаму праекту ўсе лясы, быўшыя вясковыя, фальварковыя і наагул ня маючыя агульнага дзяржаўнага значэньня ў ліку больш як 400.000 дз. павінны быць аддадзены ў карыстаньне сялян. Гэта прапазіцыя ня вызвала навет і спрэчак. За тое шмат гаварылася аб тым, як карыстацца гэтым лесам? Адны даказывалі патрэбнасьць разьдзяліць увесь лес на маленькія дзялянкі і даць для карыстаньня і пад апеку кожнаму гаспадару; другія-ж па большай часьці бяднейшыя і жыхары вёсак, паложаных далёка ад лесу, былі проціў гэтага і прасілі, каб у законе боло напісана так, што лес перадаецца ў карыстаньне сельскага Об-ва. Пры галасаваньні большасьць была за апошнюю прапазіцыю.

Гэтак, лясы мяйсцовага значэньня перадаюцца сельскаму Об-ву, якое выбірае лясную камісію з 3 чалавек. Гэта камісія выдае дазвол на вырубку лесу, мусіць апекавацца ім (засяваць высечаныя вучасткі) і аберагаць ад кражы. Плата ад гэтага лесу бярэцца такая, каб толькі можна было аплаціць лясьніка. З дзяржаўных лясоў, лес адпускаецца за плату, якая ставіцца на 47 проц. ніжэй агульнай тарговай таксы.

Тут жа ў Заслаўлі мы мелі магчымасьць бачыць жыцьцё селяніна і гаварыць з ім. Настрой розны. Шмат ёсьць і нездаволеных. У аднаго абрэзалі зямлю, другому ня далі зямлі там, гдзе ён хацеў, трэцяму не падабаецца тое, што ў школах не выкладаецца Закон Божы і т. д. Такіх прынцыповых нездаваленьняў, якія-б згуртавалі ўсё сялянства, **няма**. Сялянскі кансэрватызм, страх перад новым,—вось галоўныя прычыны нездаваленьня.

Праўда, што аб старым ужо ніхто ня думае, і верыць, што кожны год прынясець усё новыя і новыя палёгкі. Гэтаму настрою шмат памагло зьмяншэньне ў леташнім годзе падатку.

(Далей будзе).

**пасол П. Мятла.**

# ХРОНІКА.

**АД РЭДАКЦЫІ.** З прычыны таго, што наша часопісь пачала выхадзіць пасьля 1-га красавіка і ўжо не магла быць унесена ў сьпісак газэт, якія рассылаюцца поштай паводле ільготнага тарыфу,—мы прымушаны да канца гэтага месяца рассылаць газэту падпішчыкам пад маркамі, што каштуюць **ў чатыры разы даражэй**. Дзеля гэтага мы да канца месяца змушаны выпускаць газэту замест двух—**адзін раз у тыдзень**, затое **ў павялічаным разьмеры.**

**Новыя школьныя падручнікі.** Беларускае Выдавецкае Т-ва ў Вільні выпусьціла ў сьвет дзьве вельмі цэнныя школьныя кніжкі:

1) А. Г. Вульфіус. **Навейшая гісторыя.** —Колектыўны пераклад вучняў 7 клясы Віленск. Беларуск. Гімназіі пад рэдакцыяй **І. Савіцкага** і з дабаўленьнем гісторыі канца XIX і пачатку XX в.в.

2) Н. Рыбкін. **Геомэтрычны Задачнік.** Часьць І. Плянімэтрыя.—Колектыўны пераклад вучняў Віл. Бел. Гімназіі пад рэдакцыяй **Р. Астроўскага.**

З вонкавага воку выданьне дужа стараннае, па зьместу — цэнная дапамога нашай сярэдняй школе.

**Пасольскія мітынгі.** Паслы з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады Б. Тарашкевіч і П. Мятла выступілі на мітынгах у Паставах—13-га красавіка і ў Дунілавічах—14 га красавіка.

Народу было вельмі многа, прыём дэпутатаў — вельмі гарачы, асабліва ў Паставах. Падробную справаздачу дамо ў чародным нумары.

**Працэс „93“.** 12 красавіка пачаўся ў віленскім акружным судзе працэс „93 „камуністаў“. З усяго ліку абвінавачаных зьявілася толькі 82. З іх 1 праваслаўны, 4 каталікі, рэшта жыды; частка (11) заявіла, што яны — жыды, але „бяз ніякай рэлігі“.

З боку пракурора—28 сьведкаў, з боку абароны—145.

Галоўныя сьведкі абвінавачаньня: канфідэнт і 2 камісары палітычнай паліцыі — чамусьці не зьявіліся. Аднаго з іх, Гэрцыка, суд выклікаў ды шукаў павесткамі ды тэлеграмамі, каля пяці разоў, але гэтага свайго ўрадоўца, дый яшчэ такога важнага, навет цэнтральныя ўлады „не маглі знайсьці“,—бо на ўсе тэлеграмы навет не адказывалі.

Абарона з гэтай прычыны патрэбавала адлажыць справу, пракурор далучыўся да гэтага дамаганьня. Але суд пастанавіў справу разглядаць, ды—ведама-ж—пры зачыненых дзьверах...

**Выступленьні безработных у Вільні.** У апошнія дні ў Вільні было некалькі масавых выступленьняў безработных, якія праз сваіх дэлегатаў да прэзыдэнта места дамагаліся, каб былі наладжаны публічныя работы, пры якіх маглі-б знайсьці працу безработныя. Дэлегатам было заяўлена, што места атрымала пазыку ў ліку 25 000 злотых дзеля распачацьця работ.

**Спыненьнэ эксмісіі з зямлі пад будынкамі.** У № 29 „Dziennika Ustaw“ з 30. III. 26 апублікаваны ўстаў аб спыненьні выкіданьня арандароў зямлі пад будынкі ў местах, мястэчках, вёсках і пасадах на абшарах, падлягаючых дзейнасьці апэляцыйных судоў Варшаўскага, Люблінскага і **Віленскага.** Гэтым самым устаў гэных увайшоў у законную сілу.

**Стан віленскае прамысловасьці.** „Słowo“ падае жменю цыфр, характэрызуючых стан прамысловасьці ў Вільні і ваколіцах.

У 1925 годзе лічба прамысловых прадпрыемств была 205, лічба работнікаў у іх—5.000. Раўнуючы да папярэдняга—1924—году, лічба работнікаў паменшала блізу на 2.000 душ, галоўным чынам сярод будаўляных работнікаў, якіх у 1925 годзе было ўжо толькі 896—у васьмёх прадпрыемствах. У-ва ўсіх другіх галінах працы зьмены, раўнуючы да 1924 году, былі нязначыя і пакрыліся тым, што ў 1925 годзе адчыніліся фабрыка дрэўнае тканіны з 600 работн. і швальны Мозэра з 320 раб. К 1 студзеню 1926 году зачыніліся 7 разьлеўняў гарэлкі і 1 фабрыка серпічкаў.

У 1925 годзе працавалі на фабрыках 1,602 жанчыны, пад той час, як у 1924 годзе мелі працу толькі 1,096 жанчын. Заробкі іх—дужа малыя: ад 1 да 4 зл. за рабочы дзень. Найгорш аплачываецца праца ў Мозэра і ў фабрыцы дрэўнае тканіны.

**Галадаючыя дзеці.** Школьныя ўлады ў Вільні падлічылі, што на агульную лічбу 9.068 дзяцей, якія тутака ходзяць у пачаткавыя школы, ажно 2,169 (значыць, 24%) дзяцей стала недаядаюць або прост галадаюць!

Запраўды, жудасны абраз! Ці ня лепш было-б, каб грошы, якія тут так часта праядаюцца і прапіваюцца на банкетах, ладжаных для розных „высокіх гасьцей“—сваіх і загранічных, пайшлі на хлеб гэным галодным дзеткам?!...

**Афіцыяльны курс грошы на 14 красавіка.** Даляр — 8 зл. 80 гр. Залаты рубель — 4 зл. 55 грошы.

14. IV. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9 зл.

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# Карэспандэнцыі.

## „Ашчаднасьць“.

(З Стаўпецкага пав.).

На днях павінен пакінуць Стаўпцы быўшы Стаўпецкі староста п. Заёнчковскі. Рада Стаўпецкага магістрату, хочучы ўшанаваць ад'езд так „заслужонага“ дзеяча на ніве польскасьці, асыгнавала на пажагнальны банкет і прэзэнты пану Старосьце—„толькі“ **1.000 злотых**, а гмінныя—**па 200 злотых.**

А што ён „заслужоны“, дык аб гэтым сьведчыць тое, што нат цэнтральныя ўлады прызналі „стараньні“ пана Старасты за „zbyt gorliwe“ і... зрэдукавалі!..

І вось, на гэтым банкеце паплывуць лікёры, віна, а з імі прамовы, падзякі і то—ад імя „ойчызны“, за карысную працу на дабро тэй-жа „ойчызны“....

А хто падзякуе магістрату і гмінным радам за марнаваньне народных грошы і то ў той час, калі сотні-тысяч безработных пухнуць з голаду, а скарб сьвеціць пусткай?!.

---

Паліцыя ў Стоўпцах „бадала“ жыхароў м. Стоўпцаў Янку і Дзяніса Галоўчыцаў.

Дзянісу казалі зьняць боты і абрэзкам кантовай дошкі білі па пятах, а ў Янкі, пасьля баданьня, вушы зрабіліся, як каўбасы, а твар з белага—сінім.

На гэты „выпадак“ наткнуўся пасол Сялянска-Работніцкае Грамады, грам. Сабалеўскі, які ськіраваў гэтую справу ў Міністэрства Справядлівасьці і Міністэрства Унутраных Спраў.

## Вёска прачынаецца.

(Вёскі Канюхі і Жарэбкавічы, Ляхавіцкае гміны Баранавіцкага пав.).

Два разы мне здарылася пабываць у Канюхоўскім тэатры, 28-га лютага гулялі „Залёты“ Вінцука Дунін-Марцінкевіча.

Ня гледзячы на вялікія перашкоды, як з боку матар'яльнага (дэкарацыя і ўборы) так і з боку некаторых несьвядомым—цёмных адзінак, як напр.: Васіля Смалевіча, Надзеі Ш., Мікалая Б. і др., каторыя ўсімі сіламі стараліся перашкаджаць нашым маладым пачынаючым артыстам,—п'еса была адыграна добра, ды навет і тыя, якія перашкаджалі ў гэтым добрым дзеле, цяпер зразумелі сваю памылку.

Канюхоўцы пастанавілі на Вялікдзень згуляць некалькі п'есаў: „Птушку Шчасьця“, „Конскі партрэт“, „Дзядзьку Якуба“ і інш. Душа радуецца, чуючы гэткія навіны, што хоць частка нашае моладзі зразумела важнасьць і патрэбу гэткае працы; хоць калі-не-калі будзе дзе адвясьці душу беднаму селяніну і хоць на мамэнт—забыцца пра сваё гаротнае жыцьцё.

Адно толькі кепскавата, што ня ўсе яшчэ зразумелі важнасьць і карысьць „тэатраў на вёсцы“. Гэта далося мне адчуць на спэктаклі—вечарыне ў суседняй з Канюхамі вёсцы Жарэбкавічах 14-га сакавіка гулялі п'еску „Заручыны Паўлінк“, потым былі: дэклямацыя і сьпевы хорам, песьня „Прыляцелі Гусі“ прапяяна была надта добра, я вельмі ўсьцешыўся, чуючы гэту блізкую нашым беларускім сэрцам песьню. Але й сама п'еска, як на першы раз, была згуляна ня згорш, калі ня лічыць таго, што роль вучыцеля Якіма Сарокі сыграна вяла, надта мала жыцьця — рухавасьці, мне здавалася, што ён мае мала пэўнасьці ў сваіх сілах і г. д., а тут, наадварот, трэба было паказаць, што, ня гледзячы на свой цярністы жыцьцёвы шлях, яго ідэя, яго моц, яго энэргія ня гіне ні на хвіліну. Паўлінка адыграла сваю роль добра, хоць самая роль да яе не падходзе, дый прыбрана была кепскавата; але гэта ўжо віна не артысткі, а рэжысэра. Яе прыяцелька Адэлька мяне надта пацешыла.

Рэжысэру радзіў-бы лепш унікаць у зьмест п'есы! Ён павінен ведаць, што тэатр, а тым болей тэатр на вёсцы, ёсьць і павінен быць асяродкам пашырэньня культуры, асьветы і сьвядомасьці сярод люднасьці; гэта ёсьць тое, для духа, што хлеб для цела (калі ня болей). Значыць, асобы сьветлыя — выдатныя павінны выбірацца і падгатаўляцца з вялікім стараньнем дзеля таго, каб гэткі аматар артыст патрапіў ушчапіць у душу маласьвядомага-цёмнага глядзельніка хоць капельку сваіх добрых чуцьцёў. Значыць „тэатр на вёсцы„ павінен прыцягваць публіку да сябе ня толькі тым, што там спадзявцімуцца ўбачыць што-небудзь сьмешнае, але й дзеля таго, каб чаго небудзь навучыцца.

Спадзяюся, што маладыя артысты зразумеюць мае скромныя словы праўды і не абразяцца за іх на няведамага ім дарадчыка, а я ў свой чарод складаю ім сваё сардэчнае „Божа памажы“ і многа рад буду яшчэ колькі разоў пацікавіцца іх добраю працаю.

Усё-ж такі, ня гледзячы на некаторыя заганы, мушу прызнацца, што мая душа ў час спэктаклю адпачыла; хоць на мамэнт удалося забыцца, уздыхнуць вольнымі грудзьмі і парадавацца, што вёска ня сьпіць, а прачынаецца.

**Зьмітручок Цікавы.**

## Як нас адбудавалі.

(Вёска Лаўрыновічы, Лыскаўскай гм., Ваўкавыск. пав.)

У васеньні пануры і хмурны дзень 1923 г., было на нашай вуліцы сьвята, і ўсё ў гэты дзень жыло і весялілася... дый як-жа плакаць, калі цёплая, сьветлая, радасьць моцна пастукалась у нашыя вароты?..

Справа ў тым, што ў гэты дзень прыехаў да нас тэхнік бюро адбудовы з просьбамі, якія былі зложаны ў працягу двох гадоў, каб намейсцы спраўдзіць усё тое, што зазначана ў тых просьбах, дый, каб згодна ўжо з тымі данымі, бюро адбудовы магло вызначыць запамогу.

Усіх просьбаў было штосьці болей як дваццаць, але права на запамогі было прызнана нешта каля пятнаццаці, бо некаторыя жадаючыя запамогі, мелі хоць старую, але ня зьнішчаную дашчэнту, будову.

Гэтую радасьць дапаўняла яшчэ і тое, што асыгноўкі на атрыманьне запамогі можна будзе дастаць за тыдзень: толькі трэба мець пры гэтым „даводы асабістыя“.

Бяз ніякае астаноўкі—на другі дзень—нашы сяляне гурнулі да гміны, каб напісаць пратаколы на пашпарт дый... зараз у той-жа самы дзень пайшлі да павятовага старосты, лічачы гэтак, што, якраз пакуль сюды-туды, дык прыйдзе тэрмін адтрымаць асыгноўкі на запамогу.

Дзеля таго, каб выдаць пашпарт, павятовы староста патрэбаваў: фатаграфічныя картачкі і сякія-такія аплаты; так што гэтым разам некаторым, з прычыны нястачы грошай, прышлося адмовіцца ад пашпартаў,—другія-ж здалі патрэбныя дакумэнты і, сказалі ім у старостве, прыйсьці па пашпарты за два тыдні, а ў бюро адбудовы падцьвярдзілі тыднёвы тэрмін.

Добра, думаюць сяляне, акурат трэба будзе прыйсьці за два тыдні, дык зразу можна будзе ўсё спраўдзіць... А пакуль-што — поўныя нецерпялівасьці але... і радасьці—чакаюць...

Вось, прайшло два тыдні — пайшлі... Пашпарты дасталі тымчасовыя, бо на 6 месяцаў, з адзнакамі—у рубрыцы: Прыналежнасьць дзяржаўная—не ўдаваднёна, а ў рубрыцы: нарадовасьць—польская. (Галава ў галаву—Беларусы і адвечныя жыхары сваей вёскі).

А ў бюро адбудовы сказалі, што просьбы пасланы ў камісію запамогаў, а аб тым, што камісія пастановіць, дык будзе павядомлена цераз гміну; так-што нат' і прыходзіць болей ня трэба.

Чакаюць сяляне, але час не чакае; ён па сваім адвечным законам і раз праложаным шляхам — цячэ бяспрыпынна...

Пытаюцца ў гміне:—Ці няма наказаў?.. А як-жа, часам ёсьць, — але гэта наказы падаткавыя, або карныя, але што да адбудовы, дык штосьці ня чуваць.

Дзень зьмяняўся ночай, ноч днём і, як заўсёды, час уцякаў. Адыйшоў і загінуў дзесь у невазвратнай вечнасьці увесь 1924 год. Кончыўся тэрмін адбудовы... кончыўся тэрмін выдачы запамогаў на адбудову... кончыўся вось і... 1925 год...

„Адбудавалі“!..

Астаўся таму, хто ня меў хаты, — дах неба над галавою, і... цяпер ужо вышаўшы з тэрміну, забруджаны, з фатаграфічнаю картачкаю, пашпарт на памяць аб вясёлым сьвяце на нашай вуліцы...

Скончылась казка пра сон залаты...

**С. Сьвістун.**

## Зладейства.

(М. Сьвіслач, Ваўкавыскага пав.).

Прыехаў у нашу гміну новы пісар, „парадзіўся“ з войтам і разам рашылі, каб сяляне ім аддавалі падаткі, а ўжо яны будуць адсылаць у скарбовую касу.—І зьбіралі, а ў касу не адсылалі. — Прыехаў прадстаўнік касы — і да солтысаў па падаткі; а солтысы паказваюць квіты, што заплацілі. Пасьля да касы ў гміне, а там не стае 2000 злотых!

Пісара пасадзілі ў вастрог, і сьледавацель робіць спраўкі.

Вось у якога „начальства“ нашы крывавыя грошы гінуць!

**Л. С.**

## „Рукі заграбучыя“.

(М-ка Казлоўшчына, Слонімскага пав.).

Усе з нас цягнуць, і папы ў гэтым не адстаюць. Вось наш поп у Казлоўшчыне за хрэст бярэ 7—8 зл.; за мэтрыку 40 зл. (як гэта было з А. Альшэўскім з в. Сіповічы) за шлюб 50—70 зл., а за хаваньне пакойніка ня менш 3 пудоў хлеба. —А што скажы, дык зараз абзаве бандытамі, камуністамі ды іншымі.

Жаліліся мы ў Горадню на яго, дык прыехаў „сьледавацель“ поп Камар з Дзятлаўскай парахвіі, які за зьдзірствы перамешчаны з Наваградчыны да нас, і—ясна: крук круку вока ня выдзерэ, — усё засталося пастарому.

**Чорная сьвітка.**

## Ацец Граматовіч.

(Нова-Бярозаўская пар. Бельскага пав.).

Які „пастыр“ наш ацец Граматовіч, відаць з наступных фактаў.

**Ац. Граматовіч польшчыць нашых дзетак.** —Ён выкладае Закон Божы ў нашай прыходзкай школе і выкладае **папольску.** Відаць, хоча „отличиться“ перад уладаю за тыя 300 злотых, якія атрымоўвае ён ад „жонду“ за гэтыя лекцыі. А сам ён папольску ані ў зуб, але пнецца, як тая жаба да вала; — і гэта тады як сам па паходжаньні беларус—з Бельскага пав.

**А. Граматовіч абдзірае сваіх парахвіян за рэлігійныя трэбы.** Раз кум, ахрысьціўшы дзіця, даў яму толькі 1 зл., а ён трэбаваў 3 зл. Кум грошай болей ня меў і сказаў, што селянін за 1 зл. працуе цэлы дзень, а ён, поп, за пяць мінут хоча 3 зл.—За гэта а. Граматовіч назваў кума хамам, сьвіньнёй і камуністам і пасьля крыкнуў сваім парабком „арыштаваць“ „сьмелага“ кума. А ў найбліжэйшую нядзелю на пропаведзі, замест каб добрае і карыснае слова сказаць людзям, пачаў расказваць, як таргаваўся з кумам...

У вёсцы Нова-Бярозава памерла бедная ўдава, пакінуўшы 4 дзяцей, старшаму з якіх было толькі 11 гадоў.—Дык поп Гарматовіч не паехаў хаваць яе, бо—сказаў,—дзеці не заплацяць за пахароны 14 зл., і толькі, калі зложылі яму 14 зл.—паехаў.

Цікава. — Памерла ўдава — жонка быўшага Прынеўскага папа;—дык прыяжджалі аж 5 папоў.

а мітраполія адпусьціла 100 зл. і ад кожнага прыходу далі па 5 зл.—на абед папом...

**Прыхажанін.**

## Суд над беларусамі.

(Глыбокае).

3./III. с. г. выяздной сэсіяй Віленскага Акружнога Суда ў Глыбокім асуджаны на 4 гады цяжкага вастрогу Гаўрыльчык і яго два таварышы.

Абвінавачаныя прасядзелі да суда па паўтара году; абвінавачваліся па 108 арт. К. К.

## Людзі мруць.

(З Дзісеншчыны).

У ваколіцах Празароцкае гміны шалела эпідэмія водры. Хварэлі цэлыя вёскі, ляжалі старыя і малыя. Хвароба так заядлая, што мерлі і малыя, і вялікія.

А што-ж на гэтае нашае мэдыцынскае „начальства“?..

Ды зусім нічога. Праўда, маем у Празароках соймавага дохтара і „амбуляторыю“. Але карысьці людзём ал гэтага ніякай. Бо хто-ж павязе хворае дзіця ў Празарокі за 5—10 в.? Вязьці-ж дохтара да сябе — ня кожны зможа, бо, ня гледзячы на тое, што гэты дохтар, як мы чулі, павінен змагацца з эпідэміяй дарма, яму трэба плаціць па 6 — 10 зл. за прыезд да хворага. А потым яшчэ ў аптэцы за лякарства. Дык адкуль-жа возьме бядак-селянін якіх 10—15 зл., калі гэтакую цыфру ён відзіць толькі ў сьне? Дык і мруць людзі, як мухі.

На Каляды да гэтага дохтара прыехаў адзін жыхар в. Руднікі, у якога жонка мела цяжкія радзіны. Пан дохтар быў тады ў гасьцёх у пісара і ехаць да хворай адмовіўся, а адаслаў селяніна ў Зябкі (яшчэ 5 вёрст) да соймікавай акушэркі—але і тая не паехала.

Вось дык соймікавая мэдыцына!..

Гэты-ж дохтар так пасабіў у радзінах жыхарцы засьц. Марусіна-Гонтковай, што яе ледзь пасьпеў адратаваць праўдзівы (бо-ж ня соймікавы) дохтар з Бароўшчыны—п. Жазьнеўскі.

Дзівуе нас—плацім у павятовы соймік на мэдыцыну, і цешымся, што хоць будуць дбаць аб нашым здароўі, а тутака наадварот—помачы ніякай, а плацім яшчэ дохтару, аптэцы, а ўрэшце... ксяндзу ці папу!..

Жыхары Празарок, ужо патрацілі веру ў мэдыцынскую „веду“ пана Бялінскага і ўважаюць за лепшае, карысьнейшае і таньнейшае лячыцца самім.

Людзі мруць, але гэта мрэ беларускі люд — дык паном і бяды мала. **Зязюля.**

## Каму добра жывецца ў нас?

(Вёска Рымкі, Пастаўскае гміны).

Чытаючы загаловак маей карэспандэнцыі, паважаны чытач, пэўна, скажа: „вядома, ніхто ляпей ня жыве, як абшарнік ды ўрадовец на „Крэсах“.

Але-ж, браце, гэта няпраўда, бо нашы абшарнікі хоць смачна ядуць і п'юць, затое й працуюць дзень і ноч з Паўлюкевічам, шукаючы здрайцаў беларусаў пад полюсам. А апрача гэтага, маюць даволі клопату і з Клюбам Белар. Сялянска-Работн. Грам, які „няведама за што“ імкнецца забраць панскія двары й раздаць іх (на злосьць вызваленцам і іншым ашуканцам!) ня польскім асаднікам, а беларускім сялянам.

Ня трэба завідаваць і „нашым“ урадоўцам, бо яны сьпярша мусяць адзначыцца ў Польшчы, пакуль іх вышлюць да нас на „Пакуту“. А тутака ім трэ' добра папрацаваць, каб выдумаць такое распараджэньне, якое-б ня мог выканаць усемагутны беларус. Вось тутака і жыві, як хочаш?!

Але-ж, дарагія чытачы, ёсьць у нас людцы, якім нам трэ' пазавідаваць, бо яны ня сеюць, ня жнуць, а „ацец нябесны“ гадуе іх, ды й ня горай, як запраўднага сяўца.

Такімі выбранцамі лёсу зьяўляюцца ў нас служкі божыя, ад якіх гаротному беларусу карысьці гэтулькі, колькі ад казла: ні шэрсьці ні малака. Дый ня чуваць, каб яны дужа моцна і скардзіліся на сваю долю, а наш „ацец“ Янэль дык ня можа глядзець, як другі гаруе.

Гараваў у нас з маткай-калей дзячок,—прагнаў яго наш „ацец“; гараваў з малымі дзеткамі 15 гадоў спалоўшчык яго Язэп — прагнаў за гэта і яго пасярод лета. Гаравала парахфія — „прагнаў“ і яе з царквы, дзе, да рэчы сказаць, мы даведаліся ад свайга айца, што ў Заход. Белар. жывецца дрэнна „толькі“ камуністам.... І цяпер, каму прыдзецца мець інтэрас да нашага „айца“, раджу захадзіць да яго з вясёлым абліччам, а то папсуеш яго гумар і спаражніш свой кішэнь!

А што Я. умее паражніць кішэні сваіх „пацыентаў“, то гэта ўсім вядома, а балей усяго тым, хто ўздумае жаніцца, бо за шлюб у нас біруць гэтулькі, колькі малады бярэ пасагу. Ну, і аддаём мы ўсё й за ўсё свайму „айцу“, бо „баімся“, каб не перахрысьціў нас з Язэпа ці Мікалая на камуніста.

А калі няшчасны аддае апошняе і зрабіў праяву пашаны, як перад духоўнай пярсонай, на 45°, то Я. можа навет і „пацешыць“ таго, кажучы, што гэта „даяньне“ за леташні год, а за сёлетні яшчэ трэ!

Праўда, ня буду таіць: ёсьць у нас і такія „азорнікі“, якія дужа не зважаюць на прагавітасьць свайга „айца“ да чужога скарбу і на ягоны гумар; але тым штосьці не шанцуе з паліцыяй дый жывуць заўсёды пад пагрозай быць загнанымі туды, куды заганяе Касьцюк цялят. Але, годзе, няхай сабе Я. працуе „на нашу карысьць“, а плаціць яму мы ўжо ня маем чым. Хай ён атрымае плату на „тым сьвеце“? **Падарожны.**

## На адных куль саломы, а на другіх ні сьцябл .

(Краснасельская гм., Вялейскага пав.).

Ведама ўсім, што на беднага Макара і шышкі валяцца. Так і ў нас, — бяднейшых душаць, а багатшых і не чапаюць.

Загадаў нам наш войт Сурымта 27/II вазіць у гміну дровы. А конікі ў нас бяз корму, бо сена няма—купляць яго трэба па 2 зл. пуд, а грошай няма, дык згаладалыя коні ад ветру валяцца. Коні-ж нашых багатшых сялян—кулакоў—як зьвяры, і ў кожнага іх некалькі. Па дровы трэба было ехаць за 20 в., дзе-ж у такую дарогу з нашымі коньмі! Але баяліся мы штрафу і паехалі,—дасьмерці пазабівалі коні. А хто ня мог паехаць, бо хатнія абставіны не пазволілі, то войт загадаў перапісаць і пераслаць сьпісак Вялейскаму Старосьце, каб той налажыў кару. Гэтак з бяднейшымі, а што кулакі не паехалі, „так ім нічога: і волас з галавы ня спаў“. **Вясковы.**



# Беларусы у Латвіі.

### Вучнёуская часопісь.

У Дзьвінску вучні беларускае дзяржаўнае гімназіі, хоць і напалавіну разгромленае латышскім урадам шляхам высылкі найлепшых пэдагагічных сілаў, ня кінулі нацыянальнае працы і выпусьцілі новую школьную часопісь пад назовам „Школьная Праца“.

Першы нумар (за сакавік) зьмяшчае: ўступную стацьцю ў нацыянальным духу, але праткнутую высокімі агульналюдзкімі ідэаламі; далей — стацьцю, пасьвячоную памяці вядомага беларускага гісторыка А. Сапунова (з партрэтам), рад дробных апавяданьняў і вершаў вучняў, гістарычную заметку аб адносінах палачан да латышоў у VIII—XIII ст., аддзелы спорту, музыкі і тэатру, хроніку жыцьця дзьвінскае гімназіі і, наагул, беларускага школьнага жыцьця ў Латвіі. Сярод тэксту—вучнёўскія рысункі, між якімі няпрыемна зварачае на сябе ўвагу нет ведама дзеля чаго зьмешчаны рысунак мядалі, выпушчанае расейскім урадам у памяць захапленьня („возсоединения“) Беларусі... „Что сей сон значит“? „Школьная Праца“ выдаецца літаграфскім спосабам у даволі вялікім фармаце. № 1 мае 24 стр.

### Беларускія школы ў Латвіі.

Зьмена напачатку прыхільнай да беларусаў палітыкі латвійскага ўраду на варожую адбілася вельмі блага на стане беларускае школьнае справы. Аб гэтым найлепш сьведчыць школьная статыстыка. Паводле гэтае статыстыкі лічба беларускіх пачаткавых школ і вучняў ды вучыцялёў у іх зьмянялася ў працягу апошніх гадоў так:

| Школьны год: | Лічба школ: | Вучняў: | Вучыцялёў: |
|---|---|---|---|
| 1921 — 1922 . . | 46 | 3.202 | 92 |
| 1922 — 1923 . . | 47 | 3.099 | 141 |
| 1923 — 1924 . . | 50 | 2.929 | 142 |
| 1924 — 1925 . . | 36 | 2.088 | 98 |

У апошнім годзе цэлы рад беларускіх школ зачынены ўрадам і замест іх адчынены латышскія школы!



# Беларусы у Чэхаславакіі.

### Лекцыі беларусазнаўства.

У ўкраінскім пэдагагічным інстытуце ім. М. Драгаманіва ў Празе, пачынаючы з сёлетняга году ўведзены выклад беларусазнаўства. Да выкладаньня запрошаны ведамы беларускі культурны працаўнік Янка Станкевіч, які скончыў толькі што філялёгію ў пражскім унівэрсытэце і, паміж іншым, прымаў учасьце ў расшыфраваньні „Аль Кітабу“—„Сьвятой Кнігі“ нашых татараў з XVI ст., пісанай арабскімі літарамі пабеларуску.

Спэцыяльны націск грам. Станкевіч маніцца палажыць на беларускую мову.

26 сакавіка гр. Станкевіч прачытаў сваю ўступную лекцыю на тэму: „Расьсяленьне беларускіх плямёнаў паводле нарэччаў беларускага языка“



# Паштовая скрынка.

**Беларуская Кнігарня** (перанесеная з Завальнай вул. № 7), дзеля выкананьня заказаў на танную кніжку, просіць наступных грамадзян выслаць па новаму адрэсу—Вострабрамская № 1, паштовы квіт аб высылцы грошаў і новы сьпіс прошаных кніг: 1) Мікалай Ега—з Балакараці—квіт; 2) Андрэй Пугач—з Верамеек—квіт на 4 зл.; 3) Павал Зінгель—з Загора — квіт на 5 зл. і іншых, хто не атрымаў яшчэ кніг ці календароў.

Грамадзянам: Бандаровічу Пятру, Струнцу Тодару і Марку Саўка ў свой час былі высланы кнігі, але поштаю вернены, бо ня ўзяты з пошты ў належным тэрміне. На паўторную высылку Кнігарня просіць выслаць грошы: Саўка і Струнец па 1 зл. 20 гр., а Бандарэвіч 50 грошаў. Заказы будуць безадкладна выконвацца.

# Юрыдычныя парады.

**Попку Янку.** *Запытаньне*: Наша вёска мае 140 дзес. „сэрвітуту“, паложанага сярод нашага поля, з абшарніцкай нідзе не граніча́цца. Абшарнік хоча падзяліць сэрвітут напалавіну. Які цяпер закон і што маем рабіць?

*Адказ*: Па закону можаце мець права на $^{1}/_{2}$ ці на $^{1}/_{4}$ частку сэрвітуту, залежна ад таго, колькі надзельнай зямлі мае вёска.

**Грам. Галавачу.** Перш трэба ведаць, калі памёр бацька, ці сястра замужняя, ці атрымала пасаг і дзе жыве: з Вамі ці не.

**Сялянам.** 1) *Запытаньне*: З няведамае прычыны арыштавалі шмат сялян; сядзяць паўгоду ў вастрозе. Ці можна іх узяць на парукі і якім парадкам?

*Адказ*: Перш даведайцеся ў пракурора, за што арыштаваныя.

2) *Запытаньне*: Тут пабудавалі вадзяны млын на панскім возеры; вада затрымліваецца і залівае нашу сенажаць. Што рабіць?

*Адказ*: Можна падаць у суд

**Язэпу Станкевічу.** *Запытаньне*: Ці можна прыступіць да ўладаньня часткай рухомасьці і нярухомасьці майму брату па бацьку, каторы жыве на жончынай бацькаўшчыне 25 гадоў, астаўшайся па сьмерці бацькі з 1922 г., а так-жа часткай маіх родных братоў, пражываючых у Расеі, каторай я, як зямлёй так і будынкам, цяпер уладаю,—і якая частка з гэтага належыцца матцы, жывучай пры мне, і замужняй сястры?

*Адказ*: Калі брат прыняты ў „прымакі“, дык да бацькаўшчыны права ня мае. Пакуль няма доказаў, што браты памерлі, ніхто іх зямлі ад Вас адабраць ня можа, хіба будзе мець ад братоў даверанасьць.

2) *Запытаньне*: На якую частку бацькаўшчыны мае права сястра з дзяцьмі роднага памершага брата?

*Адказ*: Калі бацька памёр пасьля 1-га ліпня 1922 г., дык сястра мае роўнае права з братамі; калі бацька памёр ра[illegible], дык сястра мае права на $^{1}/_{7}$ частку зямлі і бу[illegible], а брат, або дзеці брата, калі ён памёр, на $^{6}/_{7}$ частак.

**Грам. Гуцічу.** *Запытаньне*: Наша вёска згарэла ў 1923 г. Плацілі страхоўку, а адшкадаваньня не атрымалі да гэтае пары. Гмінны Урад апраўдываецца тым, што мы не плацілі страхоўкі, але мы заплацілі і маем квіты, хоць, праўда, некаторыя сяляне квіты пакурылі, а рэшта аддалі паліцыі. Што рабіць?

*Адказ*: Трэба зьвярнуцца ў Дырэкцыю Узаемнага Страхаваньня (Dyrekcja Ubiezpieczeń Wzajemnych). Розныя квіты трэба берагчы, каб другі раз не спаганялі грошы.

**Падпішчыку № 1925.** 1) Можна толькі скардзіцца за зьнявагу (арт. 531 К. К.) кара — турма да 6 месяцаў.

2) Падаць можна, але няма-ведама, ці што з гэтага будзе.

**Грам. М. Бабічу.** Тэстамант, калі ён добра напісаны, можа мець сілу па сьмерці маткі, а пакуль яна жыве, ніякае сілы ня мае.

**Грам. Вясёламу.** Зямлю адабраць можа, на выкуп права ня маеце.

**Грам. Палуянчыку.** Можна судзіцца, але самі нічога ня зробіце.

**Грам. Буняўцу.** Прымусіць да прадажы Вам выгану ня можна.

**Падпішчыку № 116.** Па закону сястра мае права на $^{1}/_{7}$ частку і гэту частку можа даходзіць судом, разьдзел рабілі нефармальна, і ён ніякага значэньня перад судом мець ня можа.

**Грам. Жураўскаму.** Трэба ўзяць заграні чны пашпарт у Старостве і мець дазвол (візу) дацкага консула ў Варшаве.

**Грам. Вароніну.** Можна толькі атрымаць тое, што ўнясьлі ў гаспадарку свайго.

**Лаварышанцам.** Усё залежыць ад духоўнае ўлады.

**Падпішчыку № 286.** Калі сяляне больш як дзесяць гадоў зямлёй не ўладалі, дык могуць прайграць; лепш так, каб не яны пачыналі справу, а праціў іх.

**Падпішчыку № 2029.** Мачыха з дачкамі маюць права кожная на $^{1}/_{7}$, а ўсе разам на $^{3}/_{7}$ часткі маемасьці.

**Падпішчыку № 2245.** Вы маеце права на $^{1}/_{7}$ частку таго, на што мела права Ваша жонка, а яна таксама мела права на $^{1}/_{7}$ частку мужняе зямлі. Вашы дзеці маюць права на $^{6}/_{7}$ з матчынай часьці. Рэшта зямлі сыны могуць адабраць.

**Грам. Асьпірку.** Перш трэба ведаць, калі дзядзькі выехалі ў Сібір; калі яны памерлі, ці ёсьць мэтрыкі?



Рэдактар-Выдавец: Ал. Вільчыцкі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.